В. С. Макарэвіч Трансфармацыя сацыяльнай структуры дваранства Беларусі ў канцы XVIII–XIX ст. / В. С. Макарэвіч // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 33–40.

***В. С. МАКАРЭВІЧ***

# ТРАНСФАРМАЦЫЯ САЦЫЯЛЬНАЙ СТРУКТУРЫ ДВАРАНСТВА БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII—XIX ст.

У выніку ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі адбылася трансфармацыя існаваўшай на беларускіх землях на працягу некалькіх стагоддзяў сацыяльна-палітычнай структуры. Рэалізацыя намераў аб інтэграванні была немагчыма без сур’ёзных і балючых трансфармацый. Першапачаткова ўлады імкнуліся не праводзіць рэзкіх змен у некаторых сферах жыцця на далучаных землях — на працягу 30—50-х гг. тут захоўвалася асобнае цывільнае заканадаўства, дзейнічаў трыбунал, працягвалася дзейнасць, хоць і пад кантролем улады, уніяцкай царквы.

Значныя змены, аднак, адбыліся ў прававым становішчы пануючага класа, што прывяло да трансфармацыі сацыяльнай структуры дваранства. Была істотна абмежавана палітычная роля магнатэрыі, ёй было забаронена мець уласныя войскі, былі абмежаваны функцыі і паўнамоцтвы сеймікаў (дваранскіх сходаў). За кошт дробнай і сярэднезаможнай шляхты было абмежавана кола асоб, якія маглі ўдзельнічаць у дваранскім самакіраванні. Дэкларавалі ўлады і неабходнасць дакументальнага пацвярджэння шляхтаю дваранскіх праў, аднак гэтыя патрабаванні ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. былі толькі прадвеснікамі будучых суровых мер і мелі больш дэкларатыўны характар — за шляхтай агулам былі прызнаны правы расійскага дваранства. Толькі частка найбяднейшай шляхты ў 1818 г. была абкладзена падымным падаткам. Пры Паў-



ле I і Аляксандры I у так званым «польскім пытанні» праводзілася адносна ліберальная палітыка.

Дваранства, калі прымяняць афіцыйны тэрмін, ці шляхта, як яна традыцыйна называлася, падзялялася ў гэты перыяд на шэраг катэгорый. Найменш колькаснай і найбольш заможнай была катэгорыя *магнатаў* (Радзівілы, Плятэры, Агінскія і інш.). Да іх далучаюцца расійскія саноўнікі, якія атрымалі ад Кацярыны II маёнткі ў заходніх губернях (Сувораў, Зубавы, Паскевіч) альбо парадніліся з мясцовымі родамі (Вітгенштэйн). Расійскія саноўнікі рэдка наведваліся ў Беларусь, аддаючы перавагу Пецярбургу.

Больш па колькасці за магнатаў было заможных памешчыкаў з колькасцю прыгонных сялян больш за 1000 душ і сярэднезаможнай, т. зв. фальварачнай шляхты — уладальнікаў аднаго альбо некалькіх маёнткаў. Разам гэтыя катэгорыі шляхты называюць *уладальніцкай шляхтай*. Прымяняецца для іх вызначэння і лацінскі тэрмін — «*bene possessionati*», альбо польскія «*ziemianie», «obywatele*», беларускі *«абшарнікі»*. Уладальніцкая шляхта напрыканцы XVIII — у першыя тры дзесяцігоддзі XIX ст. складала не больш 5—7 % дваранства беларускіх губерняў.

Да 95 % дваранства складалася з т. зв. «*дробнай шляхты*», альбо як яе інакш называлі — «*рабочай*» шляхты [1, с. 315—316]. Па сваёй малазямельнасці альбо беззямельнасці і беднасці рабочая шляхта самастойна працавала на зямлі, у рэдкіх выпадках займалася промысламі, наймалася на іншыя працы, у тым ліку падзённыя ў гарадах і маёнтках, а ў другой палове XIX ст. нават на працу да заможных сялян. Паводле прававых адносін да зямлі, якую яна апрацоўвала, а таксама месца і тыпаў паселішчаў, у якіх пражывала, ладу жыцця, дробная шляхта падзялялася на аселую і неаселую, сельскую і бруковую, беззямельную і малазямельную, чыншавую, арэндную, службовую, ардынацкую, ленную, ваколічную, загонавую, ліндовую, засцянковую, касцёльную і інш.

Беручы за аснову адзенне і заняткі дробнай шляхты, пэўныя яе катэгорыі нярэдка называлі шарачковай, хадачковай шляхтай, дамовай, сярмяжнай, лыкавай і інш. Колькасць такой шляхты на працягу XIX ст. узрастала за кошт разарэння і падзелаў надзелаў маламаёмаснай шляхты, *паўпаночкаў,* ці інакш *падпанкаў* — уладальнікаў некалькіх прыгонных сялян. Падпанкі разам са сваімі сялянамі працавалі на зямлі. Другой прычынай павелічэння агульнай колькасці дробнай шляхты быў дэмаграфічны выбух на Беларусі ў 2-й палове XIX ст., калі колькасць насельніцтва, у тым ліку дробнай шляхты, фактычна падвоілася, з 4,5 млн чалавек у 60-я гг. да 8,5 млн чалавек у канцы XIX ст.



Асобна вылучаліся ў структуры дваранства *афіцыялісты, рэзідэнты і рэзідэнткі, рэшпяктовыя.* Такая шляхта традыцыйна служыла і пражывала ў доме магната, заможнага памешчыка. Мела пэўныя абавязкі і прывілеі. У другой палове XIX ст. рэзідэнты фактычна знікаюць як неабходны атрыбут кожнага заможнага

дома [2, с. 372]. Іх утрыманне нятанна абыходзілася ўладальніку ва ўмовах нарастаючага крызісу памешчыцкага землеўладання.

Асобна як катэгорыі дробнай шляхты ў XIX ст. трэба адзначыць *выбранцаў, панцырных баяр, путных баяр і служкаў.* Гэтыя катэгорыі насельніцтва ў часы існавання ВКЛ і Рэчы Паспалітай не ўваходзілі ў склад шляхецкага саслоўя, аднак валодалі шэрагам прывілей і, паводле прававога становішча, знаходзіліся паміж шляхтаю і сялянствам. У XIX ст. гэтыя катэгорыі намагаліся ўвайсці ў склад дваранства. *Выбранцамі* называлі групу паўпрывілеяванага насельніцтва Случчыны, продкі якіх яшчэ ад часоў князёў Алелькавічаў былі абраны для выканання пэўных, звычайна вайсковых і паштовых павіннасцей. Ва ўспамінах пра гэтую групу насельніцтва Эдвард Вайніловіч адзначаў, што абавязак выканання паштовых і пасыльных функцый настолькі ўвайшоў у іх традыцыю, што «дагэтуль (пач. XX ст. — *В. М.*) на плошчы ў Слуцку стаяць фурманкі выбранецкія, наймаючыся ў розныя бакі ў дарогу» [3, с. 22]. *Панцырныя баяры* як катэгорыя насельніцтва ўзніклі ў пачатку XVI ст. у выніку раздачы сялянам зямлі на маскоўскім прыгранiччы з умоваю нясення імі панцырнай (пяхотнай. — *В. М.*) службы. Ніякіх сялянскіх павіннасцей панцырныя баяры не выконвалі. Найбольшая колькасць панцырных баяр пражывала на Віцебшчыне. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай панцырныя баяры трапілі ў разрад дварцовых сялян, аднак дабіліся ў 1780 г. сенацкага рашэння, паводле якога былі пакінуты ў сваіх правах, будучы абкладзенымі падушным падаткам у памеры 1 руб. 20 кап. Адначасова ўрад запатрабаваў ад іх прадастаўлення доказаў свайго паходжання. Зрабіць гэта ўсярэдзіне XIX ст. удалося толькі некалькім дзесяткам сямей. Адзінаццаць з паловай тысяч душ панцырных баяр былі запісаны ў разрад дзяржаўных сялян [4, с. 201]. Значная частка панцырных баяр была пераселена ў Сібір [5, с. 19]. *Путныя баяры*, ці *путныя слугі,* у часы Рэчы Паспалітай выконвалі паштовыя функцыі, а пры патрэбе і пяхотную службу ў войску. *Служкі* неслі службу пры замках.

У часы існавання Рэчы Паспалітай пералічаныя ваенныя служылыя катэгорыі па сваім становішчы былі набліжаны да ардынацкай, леннай і чыншавай шляхты. Пасля забароны мець уласныя войскі памешчыкі і магнаты намагаліся накласці на гэтыя катэгорыі сялянскія павіннасці.



Мінскі губернатар паведамляў у 1809 г., што «крестьяне кн. Радзивиллов в Слуцком и Игуменском поветах … возмечтав, что они шляхта, или люди вольные, обсевшие издревле по договорам, и якобы новая повинность до них не относится… вникая в подробность сих обстоятельств нашёл, что до присоединения Польши к России многие богатые помещики имели у себя из своих крестьян род войска: *казаков, гусар, стрельцов* и пр., которые от всех работ и повинностей крестьянских были освобождёнными, а потому те люди, считая и теперь себя не в крестьянском звании, ныне, когда наследники тех господ восхотели сих людей обратить в повинность крестьянскую, то они считают оное насильством» [6, с. 181].

Памяць пра сваё паходжанне і асобы прававы статус яшчэ доўга перадаваліся праз пакаленні. М. Доўнар-Запольскі пісаў на пераломе XIX і XX ст. пра гэтыя катэгорыі: «...у цяперашні час нашчадкі ўсіх названых разрадаў лічаць сябе былою шляхтаю і неахвотна зліваюцца з сялянствам і мяшчанствам» [4, с. 201].

Асобна варта адзначыць паўпрывілеяваную катэгорыю *зямян*. У часы існавання ВКЛ яны належалі да асобнай катэгорыі насельніцтва. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. па меншай меры частка зямян была запісана ў шляхту. Так, у інвентарах радзівілаўскага маёнтка Лахва на Палессі ў канцы XVIII — 60-я гг. XIX ст., у складзеных перад 1819 г., тыя самыя шляхціцы ўпамінаюцца як зямяне, пасля 1819 г. ужо як шляхта, прычым іх абавязкі не змяніліся на працягу дзесяцігоддзяў — ніякіх павіннасцей, а толькі штогадовы чынш у 100 руб. [7, sygn. 2184—2198]. Змена назвы не змяніла іх прававога статуса.

У сацыяльнай структуры дваранства Беларусі напрыканцы XVIII ст. паяўляецца этнічна рускае дваранства. Спачатку яго колькасць была нязначнай. Расійскія памешчыкі не надта спяшаліся апынуцца ў асяроддзі варожа настроеных да іх мясцовых памешчыкаў. Пасля падаўлення паўстанняў 1830—31 гг. і асабліва 1863—64 гг. колькасць рускіх дваран — памешчыкаў і чыноўнікаў, хутка ўзрастае за кошт прэферэнцый, дадзеных ім урадам для набыцця маёнткаў і займання дзяржаўных пасад у заходніх губернях імперыі.

Паяўляецца на беларускіх землях і такая невядомая раней катэгорыя, як «асабістыя дваране». Асабістае дваранства на Беларусі нават у 2-й палове XIX ст. было малаколькасным саслоўем у параўнанні з уласнарускімі губернямі. На Беларусі гэтае саслоўе складалася альбо з асабістых дваран, пераехаўшых у Беларусь па службе з унутраных губерняў, альбо з мясцовых ураджэнцаў, даслужыўшыхся да XIX чыноўнічага



класа. Асабістыя дваране былі свабодны ад цялесных пакаранняў, падаткаў, рэкрутчыны, карысталіся перавагай пры займанні пасад на дзяржаўнай службе. Не мелі права валодаць сялянамі, перадаць званне дзецям. У Мінскай губерні ў 1866 г. пражывала 1886 асабістых дваран двух палоў — каля 0,2 % насельніцтва [8, с. 212—216].

Найбольшым рудыментам у сацыяльнай структуры заходніх губерняў расійскім уладам уяўлялася дробная шляхта. Інакш не магло і быць — з разбурэннем шляхецкай дэмакратыі, з абмежаваннем

паўнамоцтваў сеймікаў, яна страціла свае колішнія палітычныя функцыі. Дробнай шляхце не было месца ў сацыяльна-палітычнай сістэме імперыі.

Складаючы значны працэнт насельніцтва (ад 5 да 7 %) у заходніх губернях, дробная шляхта ў сваёй большасці спачатку не плаціла падаткі і не выконвала павіннасцей, ускладзеных на сялянства, больш таго, карысталася многімі прывілеямі дваранства — правам паступлення на дзяржаўную службу, у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы і інш.

З канца 20-х гг. XIX ст. улады пайшлі на значную трансфармацыю сацыяльнай структуры грамадства ў «далучаных ад Польшчы губерніях» з мэтай больш хуткай уніфікацыі грамадскага ладу ў імперыі, павышэння кантроля за грамадска-палітычным жыццём у нерускіх ускраінах, атрымання большых фіскальных і ваенных выгад. З пачаткам кіравання Мікалая I улады падымаюць пытанне аб правамернасці прыналежнасці дробнай шляхты да дваранства.

У лютым 1828 г. было вырашана стварыць камітэт для напісання правіл аб тым, як правесці рэвізію дзейнасці дваранскіх сходаў, якія падазраваліся ўладамі ў неправамерным зацвярджэнні ў дваранстве шматкольказнай шляхты, і «положительно определить настоящие дворянские роды» [9, т. III, № 1806]. Чыншавая і ваколічная шляхта была абкладзена падымным земскім зборам [9, т. III, № 1863]. Указам ад 19 кастрычніка 1831 г., шляхта не прадаставіўшая ў адведзены двухгадовы тэрмін дакументальных доказаў аб дваранстве, павінна была перайсці ў спецыяльна ўтвораныя для гэтага падаткаабкладзеныя катэгорыі *аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў* [9, т. IV, № 4869]. Пра тое, што закон быў скіраваны якраз супраць дробнай шляхты, сведчыць факт, што тэрміны падачы дакументаў для памешчыкаў былі неаднаразова падоўжаны.

Праіснаваўшыя як асобныя катэгорыі насельніцтва з асобымі правамі да 1868 г., аднадорцы і грамадзяне, у складзе каля 40 тыс. чалавек мужчынскага полу ў пяці беларускіх губернях, былі ў выніку далучаны да сельскага і гарадскога саслоўя [9, т. XL, № 42858].



У сувязі з рэалізацыяй закона 19 кастрычніка 1831 г. у сацыяльнай структуры дваранства Беларусі адбываюцца і іншыя значныя зрухі. Паяўляецца катэгорыя дваранства з нявызначаным прававым статусам — *легітымізуючаяся шляхта*, ці шляхта «права на дворянство которой ещё рассматриваются установленным порядком». У статыстыцы і афіцыйнай дакументацыі дзяржаўнымі органамі легітымізуючаяся шляхта трактавалася як асобая катэгорыя дваранства з некалькі абмежаванымі правамі. На пачатак 60-х гг. XIX ст. у Мінскай губерні дэпартаментам герольдыі было зацверджана ў дваранстве толькі 12 574 чал. (23,5 %). Справы аб дваранстве 53 520 асоб (76,5 %) яшчэ былі ў разглядзе [10, с. 541—541]. Падобным было становішча і ў іншых губернях.

На пачатку 60-х гг. XIX ст. улады паскорылі працэс разгляду дакументаў аб дваранстве, а ў 1864 г. указам цара ўся не даказаўшая канчаткова свайго дваранства шляхта была пераведзена ў падаткаабкладзеныя катэгорыі насельніцтва [9, т. XXXIX, № 41299]. Цяпер толькі прыпісаўшыся да аднаго з ніжэйшых класаў грамадства, былыя дваране мелі права даказваць прыналежнасць да дваранства. Рэалізацыя ўказа добра прасочваецца ў статыстычных матэрыялах, у якіх колькасць дваранства Беларусі пасля 1864 г. памяншаецца амаль удвая. Паколькі сярод выключаных з дваранства ў 1864 г. была ў асноўным дробная шляхта, у новай структуры дваранскага саслоўя Беларусі ў суадносінах да 14 % узрастае колькасць уладальніцкага дваранства. Аднак большая частка дваран (86 %) па-ранейшаму не мелі дваранскай уласнасці і належалі да так званай дробнай шляхты [11, с. 103].

Вельмі нешматлікай катэгорыяй насельніцтва, да якой была залічана частка дэкласаванай у 1831 г. шляхты, было саслоўе «ганаровых грамадзян». Да яго маглі залічыцца асобы з недаказаўшай дваранства дробнай шляхты, якія займаліся інтэлігентнымі прафесіямі: настаўнікі, адвакаты, гравёры, урачы, мастакі, літографы і інш. У ганаровае грамадзянства маглі запісацца таксама ўсе, хто належаў да катэгорыі гарадской інтэлігенцыі, якая толькі зараджалася. Ганаровае грамадзянства магло быць асабістым ці спадчынным. Умовай залічэння ў асабістае ганаровае грамадзянства было прадастаўленне атэстата расійскага універсітэта, альбо на званне «действительного студента» ці ступень кандыдата, атэстата акадэміі мастацтваў — для мастакоў. Незацверджаныя ў дваранстве шляхціцы маглі прадастаўляць пасведчанні аб адпаведным інтэлігентным родзе заняткаў [9, Т. VI, № 4869].

Спадчыннае ганаровае грамадзянства надавалася таксама нашчадкам асабістых дваран. Маглі хадайнічаць пра наданне спадчыннага ганаровага грамадзянства купцы, асобы, якія адзначыліся ў навуках і мастацтве, замежныя вучоныя, мастакі, капіталісты.



Ганаровыя грамадзяне мелі шэраг прывілей, якія выгадна іх адрознівалі ад грамадзян і аднадворцаў — мелі права адкупіцца ад рэкруцкай павіннасці за 1000 рублёў. У 1834 г. былі вызвалены ад падушнага акладу, цялесных пакаранняў, атрымалі права ўдзелу ў гарадскіх выбарах [9, Т. VIII, № 6789].

Колькасць ганаровых грамадзян была вельмі нязначнай — на 1866 г. у Віленскай губерні пражывала 56 ганаровых грамадзян, у Віцебскай 418, у Мінскай — 169, у Магілёўскай — 159 [8, с. 79].

Далёка не ўсе ганаровыя грамадзяне мелі шляхецкае паходжанне, якраз наадварот. Напрыклад, па Гродзенскай губерні, па даных 10-й рэвізіі на 1859 г., з 70-ці ганаровых грамадзян 58 былі яўрэямі [12, с. 179].

У сувязі з хуткім ростам бюракратычнага апарату ў імперыі многія бедныя шляхціцы, будучы асабіста вольнымі людзьмі, паступалі на дзяржаўную службу. Паступова такія шляхціцы страчвалі сувязь са шляхецкім саслоўем, з’яўляючыся па сваім сацыяльным становішчы разначынцамі. Менавіта іх прадстаўнікі першымі адчулі кроўную сувязь з беларускім народам, з іх пачала фарміравацца беларуская разначынная інтэлігенцыя [13, с. 20]. Многія з іх так і не былі зацверджаны ў дваранстве герольдыяй. Адукацыю ж атрымлівалі ў дваранскіх вучылішчах, куды іх прымалі толькі на падставе адных пасведчанняў ад дваранскіх дэпутацкіх сходаў.

У часы Рэчы Паспалітай за заняткі рамяством ці гандлем шляхціц мог быць пазбаўлены шляхецтва. Развіццё капіталістычных адносін прывяло да павелічэння ў XIX ст. колькасці шляхты, якая займалася такімі нетрадыцыйнымі для яе заняткамі. *Дваране-рамеснікі*, якія пражывалі ў гарадах і вёсках, па сваёй адукацыі стаялі вышэй дваран-земляробаў, асэнсоўвалі патрэбу ў адукацыі і па меры магчымасцей не шкадавалі на гэта выдаткаў... асобай і робячай гонар усяму саслоўю рысай была гатоўнасць ахвяраваць апошняй працоўнай капейкай дзеля адукацыі сваіх дзяцей» [2, с. 372]. Дзеці такой шляхты намагаліся прабіцца ў чыноўнікі. Вельмі мала было шляхты, якая перайшла ў купецкае саслоўе. Такія асобы трымалі ў буйных гарадах магазіны і лаўкі. Некаторыя з іх мелі вышэйшую адукацыю і складалі, паводле ладу жыцця, вышэйшую катэгорыю гарадскога насельніцтва [2, с. 372].

Сацыяльная структура дваранства Беларусі ў канцы XVIII—XIX ст. перажывае значныя змены, выкліканыя заменай палітычнага ладу з выцякаючымі адсюль наступствамі, галоўным з якіх быў т. зв. «разбор шлях-



ты». Каля паловы нашчадкаў шляхты, пераважна дробнай, якая карысталася дваранскімі прывілеямі напрыканцы XVIII ст., у 60-я гг. XIX ст. былі іх пазбаўлены. У працэнтных суадносінах да ўсяго насельніцтва колькасць дваранства напрыканцы XIX ст. зменшылася амаль удвая.

На змену сацыяльнай структуры вельмі істотна таксама паўплывалі працэсы, звязаныя з развіццём буржуазных адносін і крызісам памешчыцкай гаспадаркі, што прымушала дваранства да пошуку шляхоў сацыялізацыі ў зменлівых варунках.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Мыльников, А.* Процесс разложения дворянства и его социальные последствия / А. Мыльников, В. Якубовский // Социальная структура общества в XIX в. М., 1982.

2. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния / сост. А. Корева. СПб., 1861.

3. *Woyniiiowicz, E.* Wspomnienia z lat 1847—1928 / E. Woyniiiowicz. Cz. 1, Wilno, 1931.

4. Россия. Полное географическое описание нашего отечества / под ред. В. П. Семёнова. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905.

5. *Громыко, М. М.* Община в процессе переселения «панцирных бояр» Себежского уезда в Сибирь / М. М. Громыко // Общественный быт и культура русского населения Сибири (XVIII — нач. XX в.). Новосибирск, 1983.

6. Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г. / сост. А. Игнатенко, В. Сидорцов. Минск, 1977.

7. Галоўны архіў старажытных актаў (AGAD, Варшава). Arhiwum Radziwillyw, dz. XXV, Inwentarze miasteczka Jachwa.

8. Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 г. / под ред. А. М. Сементовского. СПб., 1868.

9. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе.

10. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генштаба. Минская губ. / сост. Н. Зеленский. Ч. 1. СПб., 1864.

11. *Зайцев, В.* Социально-сословный состав участников восстания 1863 г. / В. Зайцев. М., 1973, С. 103.

12. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генштаба. Гродненская губ. / сост. П. Бобровский. Ч. 1. Приложения. СПб., 1863.

13. *Самбук, С.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. / С. Самбук. Минск, 1980.